© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЕВІК




№ 36 (654) ГОД XIII 8 ВЕРАСНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.




## ГАСЦІНА

Калі палеткі ад жніва астынуць
і ляжа сум асенні на лугі,
мне хочацца ў сялянскую гасціну,
на верасовы мёд і пірагі.

Палі ў цішы, дастатак у каморы,
бараніна з капустай на стале,
стаіць глячок, нявымаўна бадзёры,
і гаспадар ад сэрца чарку лье.

З прынукай ўсё: «Да дна і на
здароўе!» —
і слухае, і п'е нявольнік-госць.
Плывуць застоллем шчырыя размовы,
людскія сэрцы свецяцца наскрозь.

І я тут п'ю з вялікай насалодай,
п'ю да відна, да пеўнікаў, да дня.
Не з чаркі — з сэрца роднага народа,
пяюння-мова, п'ю цябе да дна!

**Ларыса Геніюш**

**ЯН АНАЦІК**




Раніцай першага верасня 1939 года. Сядзім за сталом у сямейным крузе і снедаем. Гутарка ідзе аб мабілізацыі і вайне. Нічога не ведаем, што дзеецца ў свеце, у вёсцы толькі два радыёапараты: у мельніка і настаўніцы. Але раніцай ніхто з нас не слухаў радыё.

Раптам задрыжала зямля, зазванілі шыбы, потым пачуўся гук падобны да ўдару грома. З-за стала нас быццам вымела. Выбеглі мы на вуліцу. Павыбягалі таксама суседзі. Адны другіх пыталі, што сталася, але ніхто не мог вытлумачыць

Але вось вушы злавілі слабы, мала дагэтуль вядомы гук, які нагадваў журчанне вялікага чмяля. Гук гэты нарастаў ператвараўся ў злавеснае выццё, аж з-за блакітных хмар, якія плылі на пагодным небе, вынырнулі цёмныя доўгія самалёты з абрэзанымі крыламі, на якіх віднелі чорныя крыжы.

— Нямецкія самалёты, — пачуліся крыкі. — Уцякайце, бо кінуць бомбы!

І як бы ў адказ на гэта над галовамі застракатала: та-та-та, татата, тата-та...

Вуліца мігам апусцела. Людзі схаваліся, дзе хто паспеў: у сені, у хлявы, за будынкі. Некаторыя пападалі на зямлю пад платамі, там, дзе стаялі. Больш смялейшыя высоўвалі з-за вуглоў хат задзертыя ўгору галовы, сачылі за палётам самалётаў.

Ляцелі нізка, упэўнена, як драпежнікі, якія шукаюць сваёй ахвяры. Неўзабаве зніклі за лесам. На поўдзень ад нашай вёскі ўзвіўся ўгару слуп чорнага дыму.

— Гродзіск паліцца! — крычалі жанчыны.

— Не, гэта не Гродзіск, — крычаў нехта. — Гродзіск больш улева, гэта хіба Касянка, або Дрохлін.

І фактычна, гарэў, запалены нямецкімі бомбамі, маёнтак Дрохлін.

Такім я запамятаў першы дзень вайны. Трэцяга ці чацвёртага верасня ў маёнтку Пабікры, які межаваў з нашай вёскай, пад лесам, які называецца Каліновай, прызямлілася некалькі польскіх самалётаў. Следам за імі прыбыла наземная абслуга аэрадрома. Людзі і машыны схаваліся ў лесе і не паказваліся некалькі дзён. Пасля некалькіх дзён лес апусцеў. Ніхто не прыкмеціў, калі з яго зніклі самалёты і людзі. У лесе засталіся дзесяткі белых ацынкаваных бочак з бензінам.

Даведаўшыся, што лес пусты, сабраліся сяляне і пайшлі туды паглядзець, ці не знойдзецца там чагосьці прыдатнага ў гаспадарцы.

Не знайшоўшы нічога вартага ўвагі, сяляне сабраліся каля бочак з бензінам.

Стары Мацейчак стукаў кульбакай па бочках і мармытаў:

— Толькі дабра, такое багацце і гэтыя гіцлі пакінулі без апекі. А жа ж гэта наша, за нашыя падаткі куплена... Трэба неадкладна паведаміць паліцыю. Хай паставіць варту.

— Што вы, дзядуля, з неба зваліліся? — зарагаталі Мацей Гжэськовяк і Сымон Бабульчынскі. — Паведаміць паліцыю! А яе ўжо два дні няма ў Градзіску. Ні Навака, ні Халушчака, ні Грыся. Гавару вам, ніводнага. Уцяклі.

— Прапаную іншае, — сказаў Якуб Скарбеляк. — Калі сцямнее, пад'едзем фурманкамі, забяром усе бочкі, кожны па адной, ці па дзве, і закапаем на агародах. Як нашыя вернуцца, то аддамо. Важна, каб немцам яны не трапілі.

Так было і зроблена.

6—7 верасня. З пастарунку ў Градзіску ўцякла паліцыя, не было войта і сакратара, школы стаялі закрытыя, дзеці бегалі грамадкамі, забаўляліся ў вайну. Бедныя былі тыя, што выступалі ў ролі немцаў.

Часта дзеці лягалі на зямлю і прыкладалі да яе вуха, слухалі, як яна дрыжыць. Сутрасенням гэтым спадарожнічалі далёкія працяглыя грымоты, якія ішлі недзе з паўночнага захаду. Гэта войскі трэцяй нямецкай арміі абсыпалі артылерыйскім агнём польскія пазіцыі Самастойнай аперацыйнай групы «Нараў», якая бараніла пераправы на Бебжы і Нарве. Пад Пёнтніцай і Ломжай змагаўся 33 полк польскай пяхоты, пад Візнай геройскі змагалася 2 рота. Адчайна супраціўляўся бункер, які бараніў мост у Наваградзе. У гэтым раёне змагаліся Сувальская і Падляшская кавалерыйскія брыгады.

Не памог гераізм польскага салдата. Дзевятага верасня нямецкі 19 танкавы корпус 3 арміі прарваўся праз польскія пазіцыі пад Візнай, 20 змеханізаваная дывізія ўзяла Замбраў, 10-тая танкавая авалодала Высокім Мазавецкім. 21 нямецкі корпус пераправіўся праз Нараў пад Наваградам і Ломжай, ударыў на Снядова. Такім чынам войскі групы «Нараў» трапілі ў акружэнне, з якога змаглі вырвацца Падляшская і Сувальская кавалерыйскія брыгады. Тады, у верасні 1939 года гісторыі гэтых змаганняў я не ведаў. Тады слухаў я толькі дрыжэнне зямлі, потым бачыў, як палявымі дарогамі ішлі

(Працяг на стар. 4)

**СВЯТА ЎРАДЖАЮ**

**Хлеб і соль падносяць старасты дажынак Мар'я Чурак і Лявонь Карнілюк (стар. 3).**



## МІЖ З'ЕЗДАМІ

# У ДУБІНАХ І НАВАКОЛЛІ

Вёска Дубіны азіраецца на свайго вялікага і буйна растучага суседа — на сталіцу Гайнаўскага павета. Ужо зараз апошнія дамы вёскі амаль сутыкаюцца з першымі дамамі горада. Незадоўга тады чакае Дубіны лёс вёскі Горнай, якая сталася вуліцай Гайнаўкі.

Пакуль што аднак Дубіны з'яўляюцца грамадаўскім цэнтрам для дзесяці іншых вёсак і найважнейшымі для іх справамі надалей астаюцца праблемы сельскай гаспадаркі

Што ў ёй змянілася на працягу апошніх чатырох-пяці год? Як і на колькі палепшылася жыццё сялян? Як фармуюцца іх адносіны да зямлі?

З гэтымі пытаннямі звяртаўся я і да гаспадара Дубінскай грамады, старшыні Мечыслава Валенды і да мясцовага агранома Мікалая Самоціка, і да дарожнага майстра Язэпа Крынскага, і да некаторых сялян.

Гаворыць агроном:

— Некалькі год таму назад думалі мы толькі аб некаторых асноўных справах сучаснай апрацоўкі зямлі. Быў устаноўлены так званы план агрмінімум. Разыходзілася пра тое, каб сяляне прынамсі пакінулі сеяць з каробачкі і пераставіліся на конныя або трактарныя сеўнікі, каб абсталёўвалі сіласы, гнаёўкі і компастныя прызмы, каб на пожнях сеялі зараз паплёны. Гэтыя простыя сельскагаспадарчыя заданні сталіся цяпер звычайнымі прыёмамі ў працы гаспадароў.

Добрай ілюстрацыяй гэтых перамен з'яўляецца вопыт дзядзькі Тодара Янчука з Дубінскай Фермы. Старэйшы ўжо гэты селянін мае 14-цігектаровую гаспадарку. Штогод пад збожжавыя культуры адводзіць ён па 7—8 гектараў. Гаспадарыць, вядома, навучыўся ад бацькі і трэба сказаць, што гаспадарыў ён добра, лічыўся адным з лепшых гаспадароў у дубінскім наваколлі. Доўгі аднак час не маглі яго ўгаварыць, каб пачаў ён сеяць сеўнікам.

— Ніякая там машына не зраўняецца з гаспадарскай рукой, — гаварыў дзядзька Янчук. — Я сабе сам, памаленку, роўненька і як след — дзе-трэба больш падсыплю, а дзе і менш. Гэтыя трактары і сеўнікі толькі мне поле патопчуць.

Мясцовыя актывісты не давалі аднак дзядзьку Янчуку спакою, гаварылі, што прыносіць ён сорам для ўсяе вёскі. Два гады таму назад, каб адчапіліся ад яго, узяў дзядзька Тодар гуртоўскі сеўнік. Праца пайшла на дзіва спраўна, і Янчук пераканаўся, што на гэтае самае поле разышлося яму значна менш насення, а калі роўнымі радочкамі ўзышло збожжа, тады стары гаспадар коратка заявіў:

— Дурны я быў і ўсё, — і каб даказаць суседзям і ўсім іншым, што ён сапраўды паразумнеў, лёгкай рукой адзёў 3600 зл на пакупку новага, уласнага сеўніка.

— Зараз ручны сеў, — дабаўляе агроном, — прымяняюць сяляне толькі тады, калі неабходна абсеяць некалькі араў ільном, просам, грэчкай, канюшынай і таму падобнымі культурамі. Збожжа, як правіла, сеюць сеўнікамі.

— У мінулым годзе, — уключаецца старшыня, — былі ў нас яшчэ два гаспадары, якіх усе дзівакамі называлі, — адзін у Навасадах, а другі ў Катоўцы. Гэта таму, што яны дубовымі «камбайнамі» над галавой вымахвалі. А

(Працяг на стар. 5)

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

НАД ПАРТЫЙНЫМІ ТЭЗІСАМІ

# ПАРТЫЯ

У вострай ідэалагічнай барацьбе, якая цяпер ідзе паміж сіламі сацыялізма і імперыялізму, ледзь не галоўнае месца займае пытанне аб ролі марксісцка-ленінскай партыі.

Прыхільнікі сацыялізма адстойваюць надзённую неабходнасць кіруючай ролі яе ў барацьбе за рэвалюцыйнае пераўтварэнне грамадства, а іх ідэйныя праціўнікі спрабуюць даказаць адваротнае. Яны, напрыклад, сцвярджаюць, што Маркс, які абвясціў немінучасць змены капіталізму сацыялізмам, арыентаваўся нібыта не на партыю, а на стыхійны рабочы рух, між тым як Ленін перанёс цэнтр цяжару на партыю, бачачы ў ёй актыўную і адзіную зброю сацыялістычнай рэвалюцыі.

У гэтым сцверджанні няма ні кроплі ісціны. Напомнім, што ў першым жа праграмным дакуменце навуковага сацыялізма — «Маніфесце Камуністычнай партыі» — Маркс і Энгельс заявілі аб неабходнасці пралетарскай партыі ў якасці перадавой, кіруючай сілы рабочага класа ў барацьбе за сваё вызваленне.

Ленін, які абгрунтаваў ідэю адзінай, дысцыплінаванай, згуртаванай партыі і ўвасобіў гэту ідэю ў жыццё, не адышоў ад вучэння Маркса, а наадварот, развіў і ўзбагаціў яго ў новых гістарычных умовах.

Ленін даказаў, што рабочы клас можа з поспехам змагацца супраць магутнай арганізаванай і вышкаленай машыны прыгнечання, якую маюць эксплуататарскія класы, толькі пры наяўнасці высокай арганізацыі, калі ў яго ёсць свой уласны баявы марксісцкі авангард. «Выхоўваючы рабочую партыю, — пісаў Ленін, — марксізм выхоўвае авангард пралетарыята, здольны ўзяць уладу і весці народ да сацыялізма, накіроўваць і арганізоўваць новы лад, быць настаўнікам, кіраўніком, правадыром усіх працоўных і эксплуатуемых у справе ўладжання свайго грамадскага жыцця без буржуазіі і супраць буржуазіі».

Ход падзей поўнасцю пацвердзіў гэта ленінскае палажэнне.

Гэтым ленінскім вучэннем і кіруецца наша партыя. У тэзісах на V з'езд ПАРП чытаем: «Партыя з'яўляецца вядучай палітычнай і ідэйнай сілай рабочага класа і народа, палітычным кіраўніком дзяржавы і яе дзейнасці ў будаўніцтве сацыялізма».

Ці гэта не пярэчыць прынцыпам дэмакратызму? Ніколькі. Ступень дэмакратызму таго або іншага грамадска-палітычнага ладу вымяраецца ў канчатковым выніку не колькасцю партый, а рэальным удзелам народа ў кіраванні грамадскімі і дзяржаўнымі справамі. У нас у наяўнасці самы шырокі ўдзел народных мас у гаспадарчым, палітычным і культурным жыцці. Рады нарадовыя, прафесіянальныя саюзы, маладзёжныя і іншыя масавыя арганізацыі ахопліваюць, па сутнасці, усё дарослае насельніцтва краіны. Польская аб'яднаная рабочая партыя, у радах якой знаходзіцца больш як два мільёны членаў і кандыдатаў, каардынуе дзейнасць усіх дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, накіроўвае іх да дасягнення адзінай мэты — пабудовы сацыялістычнага грамадства. Перавага партыі перад іншымі масавымі арганізацыямі заключаецца ў тым, што яна аб'ядноўвае ў сваіх радах аднадумцаў, людзей, якія кіруюцца адзінай рэвалюцыйнай тэорыяй, згуртаваных адзінствам волі і дзеяння.

Ажыццяўляючы кіраўніцтва грамадствам, партыя не бярэ на сябе адміністрацыйна-распарадачных функцый. Яе асноўным метадам з'яўляецца арганізатарская і ідэйна-палітычная работа ў масах з мэтай развіцця ў іх ініцыятывы, актыўнасці, свядомага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве.

Сацыялістычнае грамадства, у адрозненне ад капіталістычнага, не можа развівацца стыхійна. Закон яго развіцця — планамернасць і мэтанакіраванасць. Кіраўніцтва нашай партыі надае і грамадскаму развіццю планамернасць і мэтанакіраванасць.

Кіруючая роля партыі з'яўляецца натуральнай патрэбай грамадства. На працягу стагоддзяў перадавыя розумы чалавецтва марылі аб тым, каб вызваліць грамадскае жыццё з кайданаў сляпой стыхійнасці, будаваць яго на разумных, загадзя прадугледжаных асновах. І вось цяпер, калі сацыялі-

(Працяг на стар. 5)



Гаспадар дажынак старшыня Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы Аляксандр Хілецкі выступіў з дакладам.



З нашых ніў вянок гэты прыпадносяць прадстаўнікам улады Гэлена Петручук, Надзея Петручук, Серафіма Сахарчук і Данута Вахоўяк.

# СВЯТА ЎРАДЖАЮ



Выступае беларускі хор Павятовага аддзела БГКТ у Гайнаўцы.



Цікавай часткай урачыстасці ў Новым Беразове была дэманстрацыя спраўнасці супрацьпажарнай службы. Бачым на здымку, як пры дапамозе воднай гарматы гасяць агонь спецыяльнай пенай. Пажарнікі Гайнаўскага павета забяспечаны добрай сучаснай тэхнікай, якая шматзначна павялічвае іх спраўнасць у барацьбе з пажарамі.



На выстаўцы сельскагаспадарчых дасягненняў Гайнаўскага павета было над чым прызадумацца.



Відаць, багата жывуць людзі ў наваколлі Новага Беразова, калі на свята ўраджаю амаль палавіна прысутных прыймалася ўласнымі матацыкламі.

Гаспадары Гайнаўскага павета сваё гадавое свята ўраджаю на гэты раз адзначалі ў вёсцы Новае Беразова. У нядзелю 25 жніўня на прасторным лузе за школай сабралося некалькі сотцен сялян з навакольных вёсак, каб супольна падвесці вынікі гадавой сваёй цяжкай працы і супольна пацешыцца дасягнутым. З павятовай Гайнаўкі прыехалі: сакратары Павятовага камітэта ПАРП Рышард Дваракоўскі і Людвік Бартосяк, старшыня прэзідыума ПРН Аляксандр Хілецкі, сакратар Павятовага камітэта ЗСЛь Эдвард Маркевіч, старшыня Павятовага праўлення ЗМВ Антон Кандрат і іншыя.

Новае Беразова называюць часта Украінай Гайнаўшчыны і сапраўды гэта перадавая грамада Гайнаўскага павета. Яна першая і па кантрактацыі збожжа, і па вышыні плёнаў, і па жывёлагадоўлі, і па грамадскіх чынах. Не трэба нават углыбляцца ў статыстычныя паказальнікі. Хопіць першае знаёмства з вёскай. Вуліца ў Новым Беразове нічым не розніцца ад гарадской вуліцы. На ўсёй яе даўжыні па абодвух баках бруку праложаны тратуар. Гэта вынік грамадскай працы. Таксама дзякуючы грамадскаму чыну ў дзень дажынкавых урачыстасцей была пераказана сялянам у карыстанне новая злеўня малака. Так жыхары Новага Беразова вітаюць V з'езд нашай партыі. І таму павятовыя дажынкі адбыліся менавіта ў Новым Беразове. Гаспадар гэтых дажынак, старшыня Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы Аляксандр Хілецкі выступаючы з дакладам аднолькава крытычна ацаніў дасягненні як і адмоўныя бакі сельскай гаспадаркі Гайнаўскага павета. Гэты даклад можна лічыць каштоўным толасам у даз'ездаўскай дыскусіі.

На працягу апошніх 4—5 гадоў гаспадары Гайнаўшчыны павялічылі свае ўраджаі на нейкіх 5—6 цэнтнераў з кожнага гектара. Аднак сельскагаспадарчы па свайму характару павет усё яшчэ не можа самастойна нават пракарміць уласных жыхараў. Вось у 1967 годзе сяляне Гайнаўшчыны прадалі дзяржаве нямнога больш за 3 тысячы тон збожжа. У той жа час дзяржава даставіла жыхарам Гайнаўшчыны аж 5.500 тон мукі, хлеба, кашы і прамысловага корму. Значыць 2.500 тон гэтых прадуктаў прышлося прывезці з іншых раёнаў ваяводства або краін.

Гайнаўшчына мае адпаведныя ўмовы, каб не толькі пракарміць уласнае насельніцтва, але і дапамагчы іншым. Гэта асабліва моцна падкрэсліў у сваім дакладзе старшыня Хілецкі. Напрамкі намаганняў, гаварыў ён, указаў IX Пленум Цэнтральнага Камітэта ПАРП. Іх пацвярджэнне знаходзім у з'ездаўскіх тэзісах. Для Гайнаўскага павета ў асноўным зводзяцца яны да таго, каб загаспадараваць кожную палоску зямлі, развязаць неяк праблему эканамічна слабых гаспадарак, якіх у павеце налічваецца амаль 450, павялічыць колькасць жывёліны, больш багата прымяняць штучныя ўгнаенні, лепш выкарыстоўваць лугі і сенажаці.

Аб сапраўдных магчымасцях гайнаўскай зямлі інфармавала сабраўшыхся на новаберазоўскае свята ўраджаю сельскагаспадарчая выстаўка. Паказана там, між іншым, што Мікалай Бол-

(Працяг на стар. 4)



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

КНІГІ

# НАЦЫЯ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СВЯДОМАСЦЬ

У канцы мінулага года выйшла з друку даволі аб'ёмістая кніжка Тадэуша Лэпкоўскага пад загалоўкам: Польшча — узнікненне сучаснай нацыі (Polska — narodziny nowoczesnego narodu 1764—1870. Warszawa. 1967).

Аўтар кніжкі падрабязна аналізуе пераўтварэнні гаспадарчай, грамадскай і этнічнай структуры ў перыяд станаўлення сучаснай польскай нацыі, пераходу Польшчы са стану народнасці (феадальная структура грамадства) у стан нацыі (буржуазная структура грамадства). Прадметам аналізу з'яўляецца таксама грамадская свядомасць паасобых слаёў грамадства Польшчы ў аналізаваны перыяд.

Кніжка цікавая для нашага чытача перш за ўсё таму, што ў многіх месцах кранае беларускія праблемы і праблемы «ўсходнія» наогул. Аўтар падкрэслівае ўдзел няпольскага насельніцтва «ўсходніх крэсаў» у польскіх нацыянальных паўстаннях, сцвярджаючы, што на Віленшчыне і ў Заходніх частках Беларусі літоўцы і беларусы складалі часта больш як палову партызанскіх атрадаў у польскіх патрыятычных паўстаннях. Аўтар сцвярджае, што «ўсходнія крэсы» адыгрывалі ў польскіх паўстаннях вялікую этнічную, палітычную і стратэгічную ролю. Напамінаючы лозунгі паўстанцаў прапагуючых брацкае сужыццё свабодных народаў польскага, літоўскага і беларускага Лэпкоўскі сцвярджае: «Так ці інакш Паўстанчая Польшча не была і ў рэчаіснасці і ў грамадскай свядомасці Польшчай этнічна аднароднай, Польшчай польскай». (Стар. 298).

Гаворачы аб этнічнай гісторыі польскага народа аўтар піша: «Біялагічная, фізічная разнароднасць тыпаў палякаў з'яўляецца — як здаецца — перш за ўсё вынікам доўгатрывалых (ад сярэдневякоўя) працэсаў перамешвання нацыянальнасцей. Наглядным з'яўляецца тое, што ядром у гэтым перамяшанні асталіся палякі, але ў біялагічным узніканні польскай нацыі прынялі немалы ўдзел немцы, яўрэі і рускія народы (беларусы і ўкраінцы), значна менш літоўцы, чэхі, рускія, славакі, а колькасна мінімальна латышы, татары, прусы, армяне і іншыя. У суме польская нацыя ўзнікла як шматнацыянальная генетычная супольнасць». (стар. 135).

Аўтар даволі падрабязна аналізуе дарогі гэтага перамяшання: этнічна мешаныя сем'і, пазасямейныя дзеці, паланізацыю іншых этнічных груп.

У кніжцы Лэпкоўскага знаходзім таксама заўвагі на тэму складанай этнічнай структуры Беласточчыны ўжо ў першай палове XIX стагоддзя. Мяшчанства беластоцкіх гарадоў складаецца ў той час з палякаў, немцаў, яўрэяў, беларусаў і рускіх.

У суме кніжка дае многа для пазнання складанага працэсу фармавання сучаснай ідэалагічна з'яднанай нацыі з данацыянальных этнічных груп, складаўшых феадальную народнасць. Для негісторыка абазнанага з сацыялістычнай літаратурай здаецца быць пэўным недахопам кніжкі не ўлічванне дасягненняў польскай сацыялогіі ў галіне доследаў над інтэграцыяй этнічных груп у сучасную нацыю. У асаблівасці чытаючы прыведзеныя фрагменты аб біялагічным перамяшанні этнічных груп складаўшыхся на польскую нацыю адчуваецца адсутнасць фундаментальнай па гэтай форме працы Станіслава Асоўскага: Грамадская сувязь і спадчыннасць крыві (Więź społeczna i dziedzictwo krwi), даказаўшага, што біялагічная спадчыннасць не мае аніякага ўплыву на спадчыннасць у галіне культуры.

**Ул. Паўлючук**

(Працяг са стар. 3)

# СВЯТА ЎРАДЖАЮ

бат з Ляўкова Старога на вопытнай дзялянцы (у пераліку на адзін гектар) дабіўся ўраджаю пшаніцы па 38—44 цэнтнеры. Так, гэта не памылка — 38—44 цэнтнеры з аднаго гектара! Калі можна мець засцярогі, што гэты плён атрымаў гаспадар толькі на вопытнай дзялянцы, дык наведвальнікаў новаберазоўскай сельскагаспадарчай выстаўкі павінны былі пераканаць вынікі новаберазоўскага ПГР-у. На плошчы ў 22 гектары жыта (ранняга пулаўскага) гэты ПГР атрымаў ураджай па 23 цэнтнеры з кожнага гектара, а на плошчы ў 40 гектараў пшаніцы дабіўся ён урадажю па 24 цэнтнеры з кожнага гектара.

Ані Мікалай Болбат, ані дырэкцыя ПГР-у цудаў не тварылі. Проста адпаведна і старанна падрыхтавалі поле і далі яму ўсяго столькі, колькі яно патрабуе. Тым часам сяляне Гайнаўскага павета ў мінулым годзе на запланаванае мінімум 55 кг НПК на кожны гектар прынялі на 10 кг менш. У гэтым годзе план мінімум прадбачвае 62 кг/га НПК. Продаж штучных угнаенняў, як дагэтуль, не прадказвае нічога добрага. Наўрад ці і сёлеташні план будзе выкананы.

Дзеля паспяховага развіцця гадоўлі ў Гайнаўскім павеце за кошт 10 мільёнаў злотых мeліяравана звыш 8.700 га балота і звыш 7 тысяч га загаспадаравана. На загаспадараваных лугах сяляне зараз накашваюць па 50 цэнтнераў сена з гектара. Перад меліярацыяй гэтыя ж самыя сенажаці давалі не больш 20-ці цэнтнераў. А ўсё ж паказальнікі колькасці жывёлы на 100 га ўгоддзяў на Гайнаўшчыне недастатковыя.

Гайнаўская вёска хутка механізуецца. Зараз працуе там 224 трактарныя камплекты. Але не толькі трактары. Звыш 150 вёсак мае там ужо электрычнае святло, у гэтым годзе атрымае яго яшчэ 3 вёскі, а ў 1971 годзе ва ўсіх сялянскіх хатах зазіхацяць электрычныя лямпачкі і загудзяць электрычныя рухавікі.

Сялянам Гайнаўшчыны астаецца яшчэ шмат чаго зрабіць. Але працуюць яны шчыра і спакойна глядзяць у будучыню. Нічога тады дзіўнага, што ў Новым Беразове было ў нядзелю шумна і весела.

**В. Рудчык**

(Працяг са стар. 1)

# ПЕРШЫЯ ДНІ

на ўсход групы змучаных і галодных салдат разбітай польскай арміі.

Заходзілі ў сялянскія хаты, прасілі вады і есці. Людзі давалі ім, што мелі: хлеб, сала, малако, гародніну, чыстую бялізну. Мыліся, елі, дзякавалі і ішлі далей. Шлі таксама такія, што не спыняліся ў вёсцы, вельмі спяшаліся.

— Куды так спяшаецеся, дзеткі? — пыталіся вясковыя жанчыны, чулыя на салдацкую нядолю. Не адна з іх жыла надзеяй, што можа ў нейкай з гэтых груп убачыць родны твар сына. Мацяркі выцiралі фартухамі вочы.

— Не плач, маці, — адказвалі салдаты. — Яшчэ Польшча не загінула. Ідзем на Брэст, там ствараецца сіла, на якой Гітлер паломіць зубы...

Не маглі паверыць, што Польшча ўжо практычна як незалежная дзяржава, не існуе. Не ведалі аб тым, што прэзідэнт і міністр ваенных спраў пакінулі Варшаву паміж 4—6 вераснем. Што следам за імі пайшлі іншыя міністры. Што некалькі дзён пазней урад, ваеннае камандванне пакінулі сваю краіну, сваю армію, свой народ.

**(З падрыхтаванай да друку кнігі ўспамінаў).**

## Сядайце, едзем

# Савецкі цырк на ільду — запрашаем

Пасля месячных выступленняў у Варшаве савецкі цырк на ільду выехаў на месяц у Заходні Берлін. У кастрычніку вяртаюцца ізноў, найменш на месяц, у Варшаву. Як кажуць вавідцы, білет на яго атрымаць вельмі цяжка. Але ад чаго наша акцыя з «Грамадай» — аддзел у Беластоку? Дырэктар Л. Каралеўскі паінфармаваў рэдакцыю, што на восеньскія выступленні савецкага цырку на ільду зможа паехаць кожны, хто захоча. «Грамада» арганізуе спецыяльныя паязды і ўладжвае справу з білетамі

А заказы ўжо прымаюць: аддзел «Грамады» ў Беластоку, вуліца Сянкевіча і ўсе павятовыя экспазітуры — у Сямяцічах, Сувалках, Ломжы.

**КРЫХУ АБ ЦЫРКУ.**

Гэта адзіны ў свеце цырк на ільду. 75 асоб маладых акцёраў, якія выступаюць ва ўсіх цыркавых спецыяльнасцях. Галоўнай атракцыяй праграмы — матч хакея ў выкананні бурых мядзведзяў. Арганізатарам і рэжысёрам з'яўляецца А. Т. Арнольд. (вл)



«Бярозка» на ільду.




Першыя ўпамінанні аб Крынках на Сакольшчыне адносяцца да першай паловы XV стагоддзя. У 1434 годзе кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла сустрэўся ў Крынках з вялікім князем літоўскім Зыгмантам Кейстутовічам. Гэта быў вялікі палітычны факт таго часу — падчас сустрэчы абодва манархі аднавілі палітычную і мілітарную ўнію паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім, але гэта быў фінал сустрэчы. А жа ж у першыя дні мела месца вельмі ўрачыстае аб'яўленне Кейстутовіча вялікім князем літоўскім, і гэтую радасную вестку павезлі з Крынак каралеўскія і княжаскія слугі.

Можна меркаваць, што ў Крынках быў пагранічны драўляны замак, бо Крынкі знаходзіліся на вялікім камунікацыйным і гандлёвым шляху з Літвы ў Польшчу. На захад ад Крынак, да рубяжоў Бельскай Зямлі і багнішчаў Нарвы ды Бобры, цягнуліся бязлюдныя пушчы — дзікая зялёная граніца паміж Мазоўшам і Літвою. Праз гэтыя пушчы ў XIII ст. ішлі вайною неспакойныя яцвягі, маючыя свае сядзібы за Бобраю, на тэрыторыі цяперашняй Сувальшчыны.

Але вернемся да гісторыі самых Крынак. У 1509 годзе кароль Зыгмунт I дае герб «месту Крынки», а крынчане называюцца мяшчанамі. Аўтары працы «Miasta Polskie w Tysiącleciu» I том, на стар. 266 сцвярджаюць, што Крынкі ўжо ў XV ст. з'яўляліся значным паселішчам...

У Літоўскай Метрыцы — зборы дакументаў Вялікага княства літоўскага — існуе дакумент пад назваю «Потвержение Гринашку Шолухину купли его дворца Крынковского в Городыском повете» з прыблізнай датай 1518 — 23 г.г. Магчыма, цяперашні «двор» з'яўляецца нейкім прашчурам Грынашкавага ўладання? З гэтым дакументам цікава супаставіць яшчэ адзін дакумент з каралеўскім подпісам складзены 28 ліпеня 1518 г. у Кракаве — «Застава Старосте Городенскому Пану Юрию Миколаевичу Дворов Городенских Озер а Крынок в Тысечы копах грошей». З гэтага дакумента даведваемся, што кароль узамен за тысячу копаў грошаў літоўскіх, што якраз спатрэбіліся яму, заставіў гродзенскаму старасце Радзіваловічу (Радзівілу) двор Крынкі... «совсими людьми тых Дворов Нашых путными и даными и тяглыми и з конюхи и зстарци и злони и Осочники и з Соленики и совсими иными людьми тых Волостей Нашых и з их всими Службами и з даньми грошовыми и Медовыми и бобровыми и куничными»... Трэба заўважыць, што гэты акт датычыць таксама нейкага двара «Озер», мабыць, у ваколіцы цяперашніх Малых Азяранаў і Вялікіх Азяранаў, што ў дзесяці кіламетрах адсюль, над рэчкаю Свіслач...

У 1540 годзе кароль устанавіў у Крынках штотыднёвы торг. Сведчыць гэта аб гаспадарчым развіцці не толькі самых Крынак, але таксама — а мо і перш за ўсё — аб загаспадараванні пушчаў, з'яўленні сялянскіх паселішчаў, гаспадарак, у Крынкаўскай пушчы.

**22 лістапада 1569 года** ў каралеўскім паляўнічым замку ў Кнышыне, кароль польскі, вялікі князь літоўскі, Зыгмунт Аўгуст даў Крынкам нямецкае гарадское права, званае, магдэбургскім. На адзін год раней такое права атрымаў Кнышын. Што абазначала гэтае права? Перш за ўсё вялікую незалежнасць Крынак ад паноў і стварэнне ўласнай, крынкаўскай, улады на чале з бурмістрам. У выпадку несправядлівасцей крынкаўчане маглі адклікацца аж да самога караля, ад гэтага часу былі каралеўскімі мяшчанамі, людзьмі вольнымі, падпарадкаванымі адно войту гэтага «места» і бурмістру свайму спасярод сябе і паводле звычаяў «меставых» (гарадскіх) Вялікага княства Літоўскага выбранаму. А бурмістрам павінен быць чалавек, які добра ведае права нямецкае (магдэбургскае) і здавён-даўна жыве ў Крынках!

Чаго яшчэ даведаліся крынкаўчане, слухаючы каралеўскага прывілею, хіба публічна прачытанага на рынку пісарам, які несумненна карыстаўся старабеларускай мовай абавязваючай у Вялікім княстве Літоўскім? «...Мы, Жыгмонт Август, Божию Милостию Король



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# НЕБЯСПЕКА НА БУЛЬБЯНІКУ

Малы, але ненасытны жучок з Каларада іржавай крупой абляпіў бульбянік на палях Беластоцкага ваяводства. У Бельскім павеце яго паяўленне занатавана сёлета ў першым тыдні чэрвеня. Трывожныя сігналы паплылі з усіх куткоў, дзе на плошчы ўзвыш 13 тысяч гектараў распасціралася ў Бельскім павеце маладзенькая, захапляюча вока жывым зялёным колерам бульба.

Магістр інж. Ян Васілюк, працаўнік Бельскай павятовай станцыі каранціна і аховы сельскагаспадарчых культур з непакоем сцвярджае, што з года ў год наглядаецца пастаяннае размножванне сям'і каларадскіх жукоў. Дзітокс, трытокс, азатокс ім не пачым. У гэтым годзе паявілася іх значна больш, як у мінулым. Магістр Васілюк на аснове нагляданняў сваіх супрацоўнікаў і на аснове рапартаў, якія ў іх станцыю наплываюць з усіх куткоў павета, сцвярджае, што не менш 95 працэнтаў бульбянікаў заатакавалі ў гэтым годзе чырвоныя жучкі.

Справа сталася зусім сур'ёзнай. З прыватнай справы кожнага селяніна, які па праву з'яўляецца панам сваёй гаспадаркі, ператварылася яна ў агульнаграмадскую праблему. Вядома, што зараз барацьба з пустазеллем і шкоднікамі сельскагаспадарчых культур з'яўляецца безагаворачным абавязкам кожнага ўласніка сельскай гаспадаркі. Стонку аднак дзяржаўнымі актамі цяжка запалохаць, яшчэ цяжэй утамаваць яе ненасытнасць. Дзеля гэтага, неабходны магутныя сродкі — тэхнічныя і людскія. Магістр Васілюк заўярае мяне, што хімікатаў рознага тыпу ў гэтым годзе сяляне мелі ўдосталь. Але хімікаты трэба чымсьці распырскваць і распыляць. У распараджэнні дзяржаўных машына-трактарных станцый, міжгуртkоўскіх машына-трактарных баз, у распараджэнні паасобных гуртkоў, спулдзельняў прадукцыйных і аднаасобніцкіх гаспадароў Бельскага павета знаходзіцца зараз 80 трактарных і 116 конных апрыскавальнікаў ды 850 ручных апаратаў для распыльвання стонказнішчальных хімікатаў. Пералічыўшы гэтыя прылады на гектары бульбы, атрымоўваем вобраз не надта аптымістычны, бо адзін, для прыкладу, трактарны апрыскавальнік вымушаны быў бы ў Бельскім павеце абслужыць у сярэднім звыш 150 гектараў бульбяніку. Таму не дзівота, што яшчэ даволі часта сярод радкоў бульбы можна сустрэць селяніна, які вядзе барацьбу са стонкай пры дапамозе звычайнай старой жаночай панчохі. Найгорш там, дзе яшчэ зямля астаецца ў цераспалосіцы. Марцін Пахвіцэвіч, сакратар Прэзідыума ГРН у Мілейчыцах афіцыйна сцвярджае, што ў вёсках Мікулічы, Мядзвежыкі, Рагачы, Навасёлкі і Баравікі прынамсі 20 працэнтаў сялян карыстаецца яшчэ панчошачным апаратам. Гэты малюнак магістр Васілюк з Бельска папаўняе сцверджаннем:

— Гаспадары да распыльвання хімічных сродкаў прымітыўнымі метадамі часта прымушаюць сваіх малых дзяцей. Гэтага рабіць нельга, нельга таксама жанчынам займацца распыльваннем гэтых сродкаў. І дзітокс, і трытокс, і азатокс з'яўляюцца атрутамі. Штоправда, іх шкоднае дзеянне на людскі арганізм спецыялісты ставяць на трэцім месцы сярод іншых атрутак, але гэтыя хімікаты перш за ўсё тым шкодныя, што яны накапляюцца ў людскім арганізме і па меры іх накаплення іх шкоднасць павялічваецца. Таму неабходна пры распыльванні гэтых сродкаў захоўваць асцярожнасць. Найлепш мець дзеля гэтага спецыяльнае засцерагальнае адзенне, скажам нейкі шчыльны камбінезон, рукавіцы і калі не маску, то прынамсі шчыльныя акуляры. Гэтую вопратку трэба перахоўваць аддзельна ў асобнай скрыні і ўжываць яе толькі ў час распыльвання стонказнішчальных хімікатаў.

Рада слушная, толькі я сумняваюся, каб нашыя гаспадары пачалі масава прымяняць яе на практыцы.

Працуючы тады з атрутай, трэба быць падрыхтаваным на ўсялякія магчымасці. Перш за ўсё трэба ведаць, дзе шукаць першай медыцынскай дапамогі. Аказваецца, што медыцынская служба падумала і аб гэтым. У аптэках у Бельску, для прыкладу, можна за 170 злотых купіць асноўны камплект медыкаментаў, якія з'яўляюцца першым ратункам у выпадку атручэння арганізма стонказнішчальнымі хімікатамі. Зімой гэтага года былі абучаны людзі ў прымяняннi гэтых медыкаментаў. Бельская станцыя каранціна і аховы раслін дадаткова апрацавала і разаслала ўсім зацікаўленым інструкцыі аб прымяненні гэтых лекаў. Бяда аднак у тым, што дагэтуль ледзь палавіна калектыўных уладальнікаў апрыскавальнай апаратуры забяспечылася гэтымі падручнымі аптэчкамі, а сяляне, якія карыстаюцца звычайнай панчохай, найменш ведаюць пра іх існаванне.

Нам здаецца, што такая падручная аптэчка павінна знаходзіцца ў кожнай вёсцы. Знаходзіцца яна магла б, напрыклад, у хаце вясковага перадавіка аховы раслін. Гэты чалавек займаецца зараз продажам хімікатаў у сваёй вёсцы. Хтосьці з яго сям'і, абучаны на адпаведным курсе, мог бы за невялікую аплату несці менавіта першую дапамогу, пакуль не паспее сапраўдная лекарская дапамога.

Зразумела, ідэалам было б зусім увольніць гаспадароў ад гэтай непрыемнай і небяспечнай работы. Ідэал гэты можна ажыццявіць устанавіўшы, напрыклад, пры сельскагаспадарчых гуртках спецыяльныя прафесіянальныя брыгады для распыльвання ўсялякіх хімікатаў, а ў тым ліку і стонказнішчальных. Зараз кошт апрыскавання аднаго гектара бульбяніка знаходзіцца ў сярэднім ў межах 200 зл. Гэта ў сярэднім столькі, колькі каштуе паўтара-два цэнтнеры бульбы. Пры сярэднім ураджаі бульбы ў 150—180 цэнтнераў з аднаго гектара гэты кошт смешна нізкі. Сяляне напэўна згадзіліся б нават на яго падваенне, каб толькі хтосьці салідна выручыў іх у гэтай рабоце. Гульня варта свечкі і варта аб гэтым падумаць ужо цяпер — у час капання бульбы, не чакаючы на яе ўзыход у будучым годзе. Каларадскі жук, пагуляўшы ўдосталь на сялянскім бульбяніку, ціха прытаіўся ў зямлі, чакае наступнага лета. (вр)

## У БЕЛАРУСКІМ МУЗЕІ



Двупаліцавая саха Лявона Андросюка з Чэхаў Арлянскіх (Гайнаўскі павет). Фота: С. Бушка

(Працяг са стар. 1)

# У ДУБІНАХ І НАВАКОЛЛІ

трэцяй гадзіне раніцы ўставалі і яшчэ пры ліхтары, як дзяды-прадзеды, лупцавалі яны снапкі цэпам.

— А цяпер? — пытаю.

— Цяпер 90 працэнтаў гаспадароў нават у клуні збожжа не возіць, а адразу з поля — пад малатарню. Так было і ў Дубінах, і Навасадах, і ў Катоўцы. Гаспадары дагаварыліся адносна чаргі абмалотаў, паставілі малатарню на супольнай плошчы і, дапамагаючы адзін аднаму, на працягу некалькіх дзён справіліся з усім збожжам.

Абагульняючы ўсё гэта можна назваць механізацыяй апрацоўкі зямлі. Сталася яна ўжо звычайнай справай нашай вёскі.

— Зараз нават гэтыя сяляне, — дабаўляе старшыня, — якія маюць уласныя коні, да цяжэйшага ворыва наймаюць гуртkоўскія трактары, а збожжа, як правіла, амаль усе косяць снопавязалкамі, — нават гэтыя гаспадары, у якіх ёсць уласныя конныя жняяркі.

Сельскагаспадарчая тэхніка ў наваколлі Дубін сканцэнтравана ў асноўным у двух сельскагаспадарчых гуртках: у Навасадах і Дубінах. Разам маюць яны 12 трактараў, 12 снапавязалак, 26 сеўнікаў і шмат іншых прылад.

Змены адносін да машын добра характарызуе гісторыя развіцця навасадаўскага сельскагаспадарчага гуртка. Існуе ён усяго ледзь 4 гады — толькі часу, колькі раздзяляе нас ад апошняга з'езда партыі. Першапачаткова запісалася ў яго 36 чалавек на 159 гаспадароў у вёсцы. Купілі яны абмалотачны агрэгат. Цяпер гурток налічвае 78 членаў і ў яго распараджэнні аж 6 трактараў з камплектам іншых дабавачных машын. Людзі хваляць тут гуртkоўскага дыспетчара Пятра Лапінскага. Апрача яго найбольш актыўнымі з'яўляюцца: Павел Трэшчотка, Аляксей Пракапчук, Сяргей Сідарук і Мікалай Круп. Дзякуючы іх супольным намаганням гурток дабіўся ў мінулым годзе 130-ці тысяч зл прыбытку, а ў гэтым годзе навасадаўскія гуртkоўцы спадзяваюцца павялічыць свой прыбытак да 200 тысяч злотых.

Дубінаўскае навакoлле азіраецца на прамысловую Гайнаўку, якая корміць многіх жыхароў тутэйшых вёсак, і таму Дубіны ў Гайнаўскім павеце не адносяцца да вёсак, дзе буйна развіваецца таварная сельскагаспадарчая прадукцыя. Але і ў гэтых нетыповых вёсках, як бачым, можна наглядаць тыповыя змены ў спосабе жыцця і гаспадаравання. Канчаткова зводзяцца яны да больш багатага быту нашых сялян. Так канкрэтна ажыццяўляецца сельскагаспадарчая палітыка нашай партыі.

**В. Рудчык**

*(Працяг са стар. 3)*

# ПАРТЫЯ

стычнае грамадства пад кіраўніцтвам партыі ажыццяўляе мару перадавых людзей, прыхільнікі капіталістычнага прыгнёту спрабуюць сказіць значэнне авангарда рабочага класа, рэвізіяністы сцвярджаюць, быццам сацыялістычнае грамадства можа з поспехам развівацца і без марксісцкай партыі, без ажыццяўлення ёю ролі кіруючай сілы грамадскага працэсу.

Ідэолагі і палітыкі буржуазіі добра разумеюць, што калі б ім удалося аслабіць кіраўніцтва марксісцка-ленінскіх партый у сацыялістычных краінах, падарваць да іх давер'е шырокіх народных мас, то тым самым можна было б нанесці смяротны ўдар і самому сацыялістычнаму ладу.

Г.В.

Польский, Великий Князь Литовский» ...дазваляем на чатыры кірмашы ў год, прыблізна, на Вялікдзень, на Ганну, на Багача і ў Міколу, а таксама на штотыднёвыя кірмашы (торгі) ў суботы, якія маюць адбывацца згодна са звычаямі ў Княстве. А ўсім паасобку купцам, фурманам, крамарам, рамеснікам, мяшчанам, сялянам і ўсім іншым людзям адусюль дазваляецца прыходзіць, прыносіць тавары, прадаваць, купляць у тарговыя дні... меркай да збожжа мае быць кадушка, у якой змяшчаецца чатыры корцы кракаўскай меры.

Лазняў пры хатах забаронена стаўляць, павінна быць адна ўсім, збоку горада, для бяспечнасці ад агню, таксама склады і бровары будаваць па-за «местам», а коміны ў хатах мяшчан маюць быць мураваныя, вуліцы дагледжаныя, брукаваныя, масты недзіравыя... Словам справы актуальныя і па сённяшні дзень! У прывілеі ўспамінаецца аб збудаванні ратушы на рынку, а ў падножжа ратушы дазваляецца на карчму, на карысць агульную (?), і для складання ды продажу розных рэчаў, тавараў, а чынш ад таго ўсяго ідзе на патрэбы Крынак. Апрача таго, — умацаваць грэблю пры млынах на рэчцы Крынцы і сваім коштам будаваць дарогі ды гасцінцы вялікія вакол горада «на вечные часы».

Да «места» Крынкі не належалі: двор, ставы, сажалкі, некаторыя землі.

Войт, яго ўрад, меў функцыі паліцыйныя, праследваў крымінальных злачынцаў, браў чыншы, а бурмістр, яго ўрад, меў функцыі цывільныя, адміністрацыйныя: судзіць і караць. Войт з'яўляўся прадстаўніком інтарэсаў дзяржавы, а бурмістр — інтарэсаў горада («места»).

Прывілей, за подпісам рукі каралеўскай, спісаў... «Саврин Война, писар Великого Княжества Литовского».

Прыблізны лік насельніцтва ў Крынках таго часу дасягнуў 2 тысяч асоб.

З ужо пазнейшых гістарычных крыніц вынікае, што ў 1679 годзе Крынкі складаліся са «Старого Места и Нового», было аж два рынкі і 13 вуліц, да горада належыла 166 валок зямлі, жыло 144 мяшчанскія сем'і — у іх ліку: 35 рамеснікаў (15 шаўцоў) і 21 гандляр.

Цяперашнюю форму Крынак прыдаў горадзенскі староста Тызенгаўз, у XVIII ст. пабудаваў шасцікутны рынак, ад якога вуліцы ідуць прамяніста ва ўсе бакі. Тызенгаўз, падскарбі Княства Літоўскага, прысвяціў многа ўвагі Крынкам, развіваючы будаўніцтва.

Пасля разбору Рэчыпаспалітай руска-пруская граніца ўсталявалася недалёка на захад ад Крынак, многія крынкаўчане займаліся кантрабандай і і нелегальным гандлем коньмі цераз граніцу. Царыца Екацерына II падарыла Крынкі рускаму вяльможы Паўлу Дынаву.

Першая большая прамысловасць паявілася ў Крынках пасля катастрофы лістападаўскага паўстання ў 1831 годзе і ўстанаўлення на Нарве мытнай (цэльнай») граніцы паміж Каралеўствам Польскім і Расійскай Імперыяй. Граніца існавала 20 год, да 1850 г. Прамыслоўцы Лодзі і Варшавы, каб не плаціць мыта за ўвоз тавараў у Імперыю, пераносілі свае заводы за граніцу, у Кнышын, Васількова, Беласток, Супраслю, Міхалова, Крынкі. Каля 1840 г. паявіліся ў Крынках першыя тэкстыльныя мануфактуры, а ў 1860 г. — вялікая мануфактура Ліпхарта, у якой працавала 106 рабочых. Крызіс у 1883—85 гадах прычыніўся да банкроцтва мануфактураў, на іх месца паявіліся вялікія гарбарні.

У 1905—6 гадах, у тыя рэвалюцыйныя часы, крынкаўскія рабочыя праславіліся на ўсю Расійскую Імперыю тым, што пераняли ўладу ў свае рукі, стварылі т.зв. Крынкаўскую рэспубліку. Кіравала рабочымі вельмі актыўная ячэйка нелегальнай Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ). У Беластоцкім музеі рэвалюцыйнага руху знаходзяцца цікавыя матэрыялы тайнай агентуры царскай паліцыі адносна рэвалюцыйнай дзейнасці рабочых у Крынках.

У 1914 годзе ў Крынках пражывала 10 тыс. асоб, а ўжо ў 1931 г. — усяго 5.736 асоб. Ад моманту выбуху І сусветнай вайны лік насельніцтва безупынна памяншаўся, цяпер найменшы, амаль напалову меншы, чым у міжваенны час, што з'яўляецца м. інш. вынікам поўнага фізічнага знішчэння акупантамі яўрэйскай часткі насельніцтва. Герб Крынак: **залаты леў на блакітным фоне.** Яго дасканалая рэпрадукцыя знаходзіцца ў І-ым томе «Miasta Polskie w Tysiącleciu» (1965), пішу гэта да ведама мілым крынкаўчанам, каб пачуліся яны энергічней у стваральнай працы на лепшую будучыню. А 400-годдзе Крынак павінна стацца аказіяй да таго. І, каб не прапусціць яе, пішу і паведамляю тым самым загадзя, і ўсіх, і каго трэба, — ужо летам 1968 года.

**Сакрат Яновіч**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Ці ёсць шлях да бессмяротнасці?

Ні адзін чалавек не можа ўявіць поўнага знікнення свайго «Я». Карыстаючыся чалавечай слабасцю, некаторыя дзялкі з ЗША прапануюць сваім кліентам «вечнае жыццё». Нехта Леанард Гольд са штата Агайо за восем з палавінай тысяч долараў абяцае кожнаму шанцы сустрэць свой тысячны дзень нараджэння. Дзялок ад навукі з дапамогай спецыяльных спальных камер імкнецца ператварыць сапраўдную смерць ва ўяўную. І знаходзяцца людзі, якія гэтаму вераць. Ці закладзена ў эксперыменце Леанарда Гольда хаця б часцінка разумнага сэнсу?

На гэта пытанне карэспандэнт агенцтва друку Навіны Іна Мухіна папрасіла адказаць віднага савецкага вучонага, прэзідэнта Акадэміі навук Беларускай ССР Васіля Купрэвіча.

— Не веру ў поспех такіх эксперыментаў, — адказаў прэзідэнт. — Рускі вучоны Парфірый Бахмецьеў працаваў над дасягненнем стану анабіезу — спынення бачных прыкмет жыцця шляхам ахаладжэння цела. Але яго доследы не былі ўдалымі. З таго часу я не чуў, каб хто-небудзь дабіўся хоць бы невялікага поспеху. Перш за ўсё не даказана сама магчымасць пераходу чалавечага арганізма ў анабіятычны стан і вяртання яго да нармальных функцый.

— Што ж закладзена ў аснове жыцця чалавека?

— У аснове жыцця — абмен рэчываў. Кожная жывая істота ўвесь час абнаўляецца. Іменна гэтым жывое адрозніваецца ад нежывога. У самой сутнасці жыцця закладзен вечны рух. Хіба чалавек памірае да канца? Не, ён працягвае жыць у сваім патомстве. Гэта даказана навукай аб спадчыннасці. Мы даследвалі выкапневыя астанкі краманьёнца — магчымага продка чалавека. Яго арганізм падобны на наш.

— Але што ж тады ўяўляе з сябе старэнне?

— Гэта комплекс паталагічных змяненняў. Пакуль «лячэнне» старасці зводзіцца да ўвядзення ў арганізм чалавека вітамінаў і лекавых рэчываў. А трэба было б весці барацьбу з самім працэсам старэння. Для вырашэння гэтай задачы трэба аб'яднаць намаганні вучоных самых розных напрамкаў — медыкаў, біёлагаў, фізіёлагаў, хімікаў.

Я атрымліваю шмат пісьмаў, у якіх чытачы энергічна адабраюць і нават імкнуцца абараніць «маю» ідэю бессмяротнасці. А ідэя ж па сутнасці далёка не новая. Мара чалавека стаць на чале жывога, поўнасцю авалодаць ўсімі тайнамі жыццёвых працэсаў вядомая спрадвеку. І калі яшчэ чалавек ажыццёвіць сваю запаветную мару!

Мы павінны весці ўсебаковую даследчую работу ў імя будучага чалавецтва. Неабходна, каб рухнуў «псіхалагічны бар'ер», які робіць школьныя ісціны непахіснымі. Пакуль жа абавязкова трэба весці размову аб падаўжэнні жыцця чалавека. Заўтра чалавек яшчэ не можа стаць бессмяротным, але ўжо заўтра ён павінен доўга жыць.

Мы яшчэ мала ведаем аб здольнасцях нашай нервовай сістэмы, аб біяхімічнай дзейнасці мозгу. Не пазнаны магчымасці матэрыі, з якой пабудаваны мозг.

— Пакуль, — гаворыць вучоны, — усе працэсы мы ўяўляем груба, у выглядзе схем. Многа ўлоўліваем па канчатковых выніках — што было і што стала. А якія прамежкавыя працэсы? Чаму яны павялі арганізм па гэтым, а не па іншым шляху? Адказаць на гэтыя пытанні мы яшчэ не можам.

— Які ўплыў працы чалавека на працягласць яго жыцця?

— Яшчэ старажытныя гаварылі: гультаі доўга не жывуць. Я з імі салідарны. Толькі праца можа садзейнічаць даўгалеццю! Чалавеку неабходна актыўнае жыццё, іменна ў працэсе актыўнага жыцця адбываецца больш паўнацэнны абмен рэчываў. Часта мы сустракаемся з выпадкамі: працуе чалавек — ён здаровы. Пераходзіць на пенсію — пачынае хварэць. Тут, відаць, важны не толькі псіхалагічны, але і фізіялагічны фактар. Праца падтрымлівае тонус нервовай сістэмы на аптымальным узроўні, захоўвае чалавеку, калі не юнацтва, то доўгія гады здаровага жыцця.

Узяць да прыкладу Гётэ або Льва Талстога. Яны да васьмідзесяці гадоў не страцілі працаздольнасці, да канца сваіх дзён былі актыўныя. Даўгалецце не можа ісці паралельна з нізкай інтэлектуальнай дзейнасцю.

— Цяпер многія гавораць аб перасадцы сэрца, нырак, і іншых органаў. Магчыма, у гэтым закладзены асновы «вечнага жыцця» і «доўгай маладосці»?

— Я думаю, гутарка павінна весціся аб раўнацэнным аднаўленні клетак і тканак у працэсе абмену рэчываў. Перасадка органаў можа даць часовае паляпшэнне здароўя індывіду і істотнай ролі ў масавым даўгалецці адыграць не можа. Сутнасць у тым, што сэрца чалавека не павінна псавацца. Яно зроблена прыродай на столькі добра, што павінна служыць вечна, як, дарэчы, і любы орган, які дзейнічае па прынцыпу самааднаўлення.

Абмен рэчываў сведчыць аб невычарпальных магчымасцях чалавечага арганізма. Пакуль жа найпершая задача — пераступіць рубеж даўгалецця.

— Але ў такім выпадку ўзнікае пытанне: ці не перапоўніцца людзьмі наша планета? Якія рэзервы могуць быць пушчаны для таго, каб забяспечыць чалавецтва і неабходнымі прадуктамі харчавання, і «месцам пад сонцам»?

— Энергетычныя рэсурсы невычарпальныя. Калі-небудзь у будучым можна будзе паставіць на службу чалавецтву энергію гравітацыі, наш аддалены рэзерв. А пакуль мы да канца яшчэ не выкарыстоўваем і водныя рэсурсы. Не сакрэт жа, што жыццё магчымае толькі пры ўдзеле вады. Вось і трэба паклапаціцца аб дастатковай яе колькасці. І без сельскагаспадарчых прадуктаў ні цяпер, ні пазней чалавецтва не зможа абысціся, ва ўсякім разе, да часу авалодання механізмам фотасінтэзу. Ніякія таблеткі не заменяць нам хлеба. Урадлівасць нашых зямель можа і павінна павялічыцца ў дзесяць, а ў некаторых раёнах і ў сто разоў. Адпаведна можна будзе павялічыць і насельніцтва планеты. А к гэтаму ж часу нашым «домам» будзе не толькі Зямля. Мы асвоім космас і, магчыма, да нашых паслуг будзе Марс, Венера, Юпітэр...

Само сабой зразумела, што людзі павінны будуць дасканала валодаць і рознымі матэрыяльнымі рэсурсамі. Але для гэтага, паўтараю, трэба аб'яднаць намаганні ўсяго чалавецтва. Тады мы зможам рашуча сказаць смерці: не! І чалавецтву, што стане бессмяротным, нішто не можа пагражаць ні ў межах Сонечнай сістэмы, ні ў Сусвеце. Фантастыка? Хто ведае... Некалькі ж гадоў назад палёт у космас таксама лічылі марнай фантазіяй.



Прэзідэнт Акадэміі навук БССР Васіль Купрэвіч.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЦЭНТР ПОЛЬШЧЫ

Дзе знаходзіцца цэнтр Польшчы? Тапографы ўстанавілі, што цэнтр Польшчы знаходзіцца ў горадзе Пёнтэк Лодзінскага ваяводства. На гарадской плошчы ў горадзе Пёнтэк установяць абеліск, які будзе інфармаваць прахожых аб цэнтральным становішчы горада. На абеліску будзе знаходзіцца карта Польшчы, а на ёй, на самым відным месцы — Пёнтэк.




Карцаў прымушае сябе ўстаць, памалу ідзе праз мосцік. А гоман у спальні плыўцоў штораз мацнейшы. Цяпер чутны і ўдары. І раптам аглушальны рык скаланае тунель.

Нарэшце прачнуўся Карцаў.

Але ўжо чутны тупат дзесяткаў ног — тыя, што бягуць, вось-вось вырвуцца з-за павароту.

Кінуўшыся ўбок, ён хаваецца за скалу. Ён стаіць, прыціснуўшыся да каменя, і яго абвейваюць хвалі паветра, узбударажанага бягучымі. Натоўп праносіцца побач, скрываецца за паваротам. А затым адтуль даносяцца выстралы, лямант.

Дарога ля лагуны яшчэ свабодна. Усё вырашаюць секунды. І Карцаў, ужо не хаваючыся, бяжыць па тунелю. Цяпер недалёка. Ён паспее. Толькі б Пела аказаўся на месцы!

Убегшы на пляцоўку, Карцаў вачыма шукае таварыша.

— Я тут! — Пела ля стэлажаў. Арудуючы ключом, ён укручвае ўзрывацель у тарпеду.

— У ваду! — крычыць Карцаў.

Схапіўшы прылады, складзеныя ля трапа, яны адначасова скачуць у лагуну.

Хутка надзеты рэспіратары. Падрыўныя зарады, компасы, нажы — усё ў парадку. І яны апускаюцца.

А плыўцы ўжо вырваліся з тунеля. Натоўп расцякаецца па пляцоўцы, вар'яты падаюць са скалы ў ваду. Але без дыхальных апаратаў плыўцы бездапаможны.

А Карцаў і Пела плывуць пад вадою. Неўзабаве яны ля мэты. Падводная лодка, адна з трох, аб якіх гаварыла радыёграма, ляжыць на дне. Італьянец просіць жэстамі, каб Карцаў астаўся на месцы і назіраў. Ён, Пела, падвесіць зарад, уключыць механізм узрывацеля. Гэта займе не многа часу, і яны пачнуць пошукі новай цэлі.

Карцаў згодны. Памалу апускаючыся ў водарасці, ён сочыць за таварышам.

Цішыня, спакой.

Лодка быццам мёртвая. Выключаны нават машынкі да ачысткі паветра.

Дзе ж Пела?

Карцаў рассоўвае водарасці і рыўком кідаецца наперад. Ён убачыў: з паверхні мора на лодку пікуе чалавек. Невядомы ў рэспіратары. Вось ён паднёс руку да пояса, выхапіў нож.

Карцаў з усіх сіл працуе ластамі. Яго гоніць страх за таварыша, гоніць лютасць, бо ў атакуючым ён пазнаў Артура Абста.

Яны хутка зблізжаюцца.

Іх дарогі перасякуцца ў метры ад італьянца. Той, ні аб чым не падазраючы, прымацоўвае да лодкі ўзрыўчатку.

Ворагі вось-вось сутыкнуцца. Абст ужо каля Пелы, паднёс руку з нажом. Карцаў атакуе яго і адганяе. Ці паспеў Абст ударыць італьянца? Здаецца, не...

Плыўцы кружаць у вадзе, не рызыкуючы зблізіцца. Яны ведаюць: для перамогі патрэбны толькі адзін удар. Той, хто памыліцца, загіне.

Памалу Карцаў адцясняе Абста ад лодкі. Трэба выйграць час. Пела замацуе міну і прыдзе на дапамогу.

Карцаў і Абст адплываюць штораз далей, падымаючыся да паверхні. Пела глядзіць ім услед. Глядзець штораз трудней — навокал мутнее, быццам мул падняўся з дна. Але Пела ведае: гэта не мул, гэта кроў. Ён ляжыць на насавым гарызантальным рулю лодкі. Калі ён рухаецца, кроў з раны ў баку цячэ мацней. З крывёю адыходзяць сілы. Іх у Пелы так мала, што наўрад ці ўдасца закончыць мацаванне падрыўнога зарада. Выхад адзін: ён навядзе механізм міны і ўсплыве, аставіўшы яе ля лодкі.

Міны ўнізе, у пяску. Пела спаўзае з лодкі і плануе да іх. Вось ён лёг на грунт, бярэцца за механізм узрывацеля.

І раптам сільны ўдар. Каб быў Пела на паверхні мора, ён убачыў бы: раскінуўшы вяршыню канічнай скалы, у неба вырваўся слуп агню, скала пахіснулася, абвалілася ў ваду.

Пела зразумеў усё. Дык жа ён сам укруціў у тарпеду ўзрывацель. Выбуху адной тарпеды было дастаткова, каб дэтанавалі іншыя, якія ляжалі побач, на стэлажах.

Сілай узрыву італьянца кідае на бок лодкі. Сцёклы шлёма лопнулі. Да твары працякае вада.

У лодцы забегалі. Яна рушылася, грунт пад ёй заскрыпеў.

Пеле дрэнна. Ён задыхаецца. Шлём поўны вады. Ён зрывае шлём. Міма праплывае шэры борт субмарыны.

Дзе ж міна?

Рукі мацаюць у пяску. Намацалі, абхапілі снарад. Міна прыціснута да грудзей. Пела, як сляпы, абег яе пальцамі.

Вось ён, узрывацель!

— Нуль... — шэпча Пела. І рыўком паварочвае лімб.

Лодку падкідвае. З дзіркамі ў борце яна апускаецца на дно.

А непадалёк працягваецца стычка Карцава з Абстам. Першы выбух не зрабіў ім шкоды — удар быў аслаблены адлегласцю. Але вось узарваў сваю міну Пела. Карцава балюча ўдарыла ў грудзі і па вушах. Паветраны мяшок рэспіратара лопнуў, у лёгкія ўварвалася вада. Паўзадыхнуўшыся ён сарваў шлём, скінуў пояс з грузамі і вынырнуў на паверхню.

Дзе ж Абст?

Карцаў апускае галаву ў ваду.

Далёка ў глыбіні, каля дна, сілуэт чалавека.

Ён загінуў?..

Не, рухаецца. Значыць, жывы, і рэспіратар яго непашкоджаны.

А Карцаў без дыхальнага апарата, згубіўшы нож, бездапаможны.

Вось Абст крыху падняўся. Цяпер ён пад Карцавым. Закінуў галаву і глядзіць на яго.

Ён можа напасці ў любую секунду, але марудзіць. Чаму?

Ён чакае, каб праціўнік падняў галаву — для ўдыху. У гэты момант Абст і пацягне яго пад ваду.

Карцаў павінен атакаваць. Атакаваць насупраць логіцы, якая патрабуе выманіць ворага з глыбіні, каб біцца



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЯК ДОЎГА...

...трэба будзе чакаць на пастанову аддзела будаўніцтва, урбаністыкі і архітэктуры ў справе ліквідацыі хаты грамадзянкі Анны Пякарскай, якая стаіць пры вуліцы.

«Хата» А. Пякарскай зусім развалённая і мо хутка зваліцца. Такі «забытак» толькі псуе выгляд адбудаванай вёскі Старое Ляўкова, праз якую вядзе турыстычны шлях, праходзіць аўтобус і ў якой неўзабаве рушыць прадукцыя ў новапабудаванай фабрыцы керамікі.

Грам. А. Пякарская жыве цяпер у вёсцы Рыбакі (Беластоцкі павет), а з хатай-унікумам не кваліцца рашаць.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## НЕ МИЛЕЙЧЫЦЫ, АЛЕ МИЛЕЙЧЫЧЫ

У інфармацыі «Привилей месту Милейчыцкому»..., надрукаванай у нумары 33 «Нівы», закралася некалькі друкарскіх памылак, вельмі істотных, а менавіта: у цытаваным старабеларускім тэксце дакумента літоўскага «сойма» ўсюды ўжываецца назва **«Милейчычы».** Дарэчы будзе зазначыць, што гэта старажытная назва ўтрымалася ў мясцовым людзе аж да нашых дзён!

Апрача таго вядома, што старажытныя «Милейчычы» два гады таму назад прапусцілі сваё 450-годдзе, а не 500-годдзе, як памылкова зазначана ў інфармацыі.

(ся)

**На рыбалцы.**
Фота: **Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## НЕ ЎМЕЮЦЬ АРГАНІЗАВАЦЬ ТУРЫСТЫКІ

У гэтым годзе, дзякуючы дырэкцыі Белавежскага парка і спулдзельні «Турыст», пераказана ў карыстанне ў Белавежы гатэль «Іву». Шкада, што не гатова яшчэ памяшканне на сталовую. Будзе яно падрыхтавана аж на другую весну.

А ў Белавежы існуюць цяжкасці з харчамі. У мінулым годзе было тут 88 тысяч экскурсантаў. Усе яны хацелі б з'есці абед у Белавежы. Але не заўсёды ёсць тут што есці. Да гэтага часу няма належнага «паркінгу», няма дастатковай колькасці праваднікоў. А ўжо замежным экскурсіям няма зусім каму расказваць аб багацці і скарбах Белавежскай пушчы. Сведчыць гэта аб тым, што не ўмеем мы яшчэ арганізаваць турыстыкі так, каб усім наведвальнікам аставалася многа прыемных уражанняў.

**Янцал**
Белавежа

## НЕ ДАЧАКАЮЦЦА

Зямля ў Тафілаўцах добрая, і калі селянін дасць ёй мінеральныя ўгнаенні — яна дае высокі ўраджай. Але ёсць такія месцы на палетках гэтай вёскі, што амаль цэлы год тут мокра, і ўгнаенні нічога не памагаюць. Перш за ўсё тут патрэбна дрэнацыя. Ужо некалькі год павятовыя ўлады абяцаюць правесці дрэнацыю. А калі сапраўды распачнуць яе, ніхто не ведае.

Таксама школу ў Чэхах Арлянскіх будуюць ужо два гады. Нядаўна гаварылася, што яшчэ ў гэтым годзе дзеці будуць вучыцца ў гэтай новай школе, але цяпер кожны ведае, што многа яшчэ вады працячэ, пакуль гэта здзейсніцца. А трэба прыпомніць, што амаль палову работы пры будове школы зрабілі жыхары гэтай вёскі.

Чаму гэта Аддзел асветы ў Гайнаўцы не клапоціцца аб тое, каб пачата работа была хутка закончана?

**П. Дубовіч**

## ЛЁС ЧАЛАВЕКА

Аб трагедыі Райска многа ўжо гаварылася і многа пісалася. Там немцы расстралялі 149 чалавек, усе будынкі ўключна з царквой спалілі, і тое месца, дзе стаяла вёска, зааралі.

Гэтых людзей, якіх не расстралялі, выгналі з вёскі. Жылі яны ў раёне Боцек. Некаторых вывезлі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Сярод забраных на работу было трох братоў: Міхась, Аляксандр і Васіль Хаманюкі. Пасля заканчэння вайны Аляксандр і Васіль вярнуліся. Аб Міхасю Хаманюку не было ніякай весткі. Усе лічылі, што ён загінуў у Нямеччыне. Але Міхась Хаманюк жыў. Лёс яго закінуў у Бельгію. Часта ўспамінаў Бельшчыну, родны Райск. Расказваў жонцы, а потым і сваім дзецям, што яго роднай вёскі няма, што яе спалілі немцы, што людзей, якія асталіся ў жывых, разагналі па свету.

Ішлі гады. Раслі яго дзеці. І Міхасю Хаманюку вельмі хацелася паказаць сваім, дзе ён нарадзіўся, дзе яго родныя мясціны. Пачаў зноў пісаць лісты да суседніх вёсак з запытаннем аб лёсе братоў сваіх, сваякоў. І адзін ліст трапіў у сакавіку ў ГРН Храбалы. Яму адпісалі, што і вёска ўваскрэсла, і браты яго вярнуліся з Нямеччыны. І Міхась Хаманюк нядаўна пасля 27 год прыехаў з васемнаццацігадоваю дачкою ў сваю родную вёску, да сваіх родзічаў. Шчасцю не было канца. Пасля месячнай пабыўкі вярнуўся ён назад да сваёй сям'і ў Бельгію.

(мх)

## НЕ КУПЛЯЮЦЬ ЯЕК І ЗЛОМУ

Некаторыя крамы не хочуць займацца скупкай яек. Жанчыны ў гэтых вёсках вымушаны несці яйкі прадаваць у суседнія крамы, або везці ў мястэчкі на рынак. Крамары тлумачаць сваю неахвоту весці скупку яек тым, што за іх вялікая адказнасць. Перш за ўсё трэба іх надта дакладна правяраць, ці няма папсутых, а апрача таго крамары адказваюць за давоз яек у склады ГС-у.

Мікола Ігнацюк з Сацаў расказваў мне, што яго спаткаў непрыемны выпадак. Падчас перавозу яек з крамы ў Нарву пабілася скрынка яек, у якой было іх 360 штук. За гэта мусіў заплаціць не той, хто вёз яйкі, а крамар з Сацаў, Мікола Ігнацюк. І вось з таго часу перастаў ён скупоўваць яйкі. А ў Сацах многія гаспадары трымаюць шмат курэй і маюць цяпер клопаты з продажам іх.

Мне здаецца, што тут ГС не ў парадку, што такім падыходам да гэтай справы ён дачакаецца таго, што ўсе крамары адкажуцца ад скупкі яек. І таму гэту справу трэба ўладзіць.

*

Другой справай з'яўляецца неабходнасць арганізавання пунктаў скупу злому. У кожнага гаспадара на панадворку валяецца нямала непатрэбнага жалеза, якое нішчыць іржа. А яно ж з'яўляецца добрай сыравінай для нашага дзяржаўнага промыслу. Пажаданым было б, каб у кожнай грамадскай радзе нарадовай быў пункт скупу злому.

**Ярош**
Гайнаўскі павет

## ПА ГАРЭЛКУ ДА КРЫСІ

Вядома, у Плёсках у краме няма гарэлкі. Як ведаем, цяперашнія людзі без гэтага прадукту не могуць абыйсціся. У святочныя дні маладыя людзі часта праводзяць час пры «чыстай». Каб дастаць у Плёсках гарэлку, не трэба доўга шукаць. Ёсць тут 70-цігадовая старушка Крысціна. Яна заўсёды ў святы ходзіць па вёсцы і носіць з сабою многа паўлітраў гарэлкі. Гэтая старая перад святам купляе скрынкамі гарэлку ў краме ў Рыбалах або ў Бельску. Потым на кожным паўлітры зарабляе 9 зл. У Плёсках існуе такі звычай «Па дваццаць і да Крысі». На гэтую старую называюць «пахадны манаполь».

Янка
Плёскі

## ЭКСКУРСІЯ

Павятовае праўленне ў Беластоку арганізавала экскурсію для вясковай моладзі. Хлопцы і дзяўчаты пабывалі ў паветах Ольштынскага ваяводства. Параходам падарожнічалі яны мазурскімі азёрамі з Мікалаек у Гіжыцка. Рулявы парахода Здзіслаў Дамброўскі быў вельмі мілым чалавекам для экскурсантаў. Цікаўным выясняў ён справы адносна працы механізмаў парахода.

Удзельнікі экскурсіі вярнуліся дамоў з прыемнымі ўражаннямі.

М. К.
Патока

## НЯМА ІНІЦЫЯТЫВЫ

Святліца ў Тапорках (Гайнаўскі павет) існуе некалькі год, але ніхто тут не паклапаціўся, каб будынак абгарадзіць. Каб увайсці ў яе, трэба 5—6 метраў крочыць па сыпучым пяску. З мясцовых улад нікому не прыйшло ў галаву, каб гэты пясчаны грунт засыпаць. На гэта спатрэбіцца толькі некалькі фурманак зямлі.

А без агарожы тут ніколі не зрабіць клумбаў кветак, без якіх святліца выглядае сумнай і адзінокай.

**П. Дубовіч**
Гайнаўскі павет

...нароўні. Абст не чакае нападзення. Раптоўнасць — адзіная перавага Карцава.

І ён ныpae.

Так, Абст нават не ўхіліўся — толькі паспеў выставіць насустрач руку з нажом. Удар атрымаў Карцаў у бядро. У наступную секунду ён ірвануў убок руку Абста. Нож з яе выпаў. І тут жа Абст атрымаў сільны ўдар у горла.

Яшчэ ўдары, яшчэ!.. Ратуючыся ад іх, Абст нагамі абвівае праціўніка, цягне на глыбіню.

Лютая, бязгучная барацьба на глыбіні. Абст слабее. Яго ногі расціскаюцца, ён спаўзае па целе Карцава.

Сабраўшы ўсе сілы Карцаў наносіць апошні ўдар — зверху, двума кулакамі.

Трэба дабіць ворага, але Карцаў задыхаецца. Адпіхнуўшыся ад змяртвелага цела праціўніка, ён плыве на паверхню.

Сонца. Спакойнае мора.

Аддыхаўшыся, Карцаў аглядае гарызонт. Навокал толькі вада.

Абваліўшыся, скала пахавала плыўцоў.

Там жа, на дне, пад скаламі, ляжыць Марта.

Вось і італьянскі марак Джорджа Пела, чалавек з мужным сэрцам, ужо не паднімецца з глыбіні...

Слёзы душаць Карцава.

У апошні раз глядзіць ён туды, дзе глыбока пад вадою пахавана Марта Рышэр.

На поўначы, за гарызонтам, база саюзнікаў.

Ён паварочвае на поўдзень.

Ён зноў адзін у акіяне.

**(Заканчэнне за тыдзень)**

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое Сэрцайка!**

Многім сяброўкам ты раіш, памажы і мне ў маёй вялікай бядзе.

Два месяцы назад была забава ў вёсцы, дзе жыве мая цётка. Вось я туды і паехала. На забаве пазнаёмілася я з В. з суседняй вёскі. Цэлы вечар я з ім танцавала, а пасля забавы ён адвёў мяне да цёткі. З таго часу пачалася мая бяда. Я зацяжарыла. Пастанавіла сустрэцца з В. Аднойчы я сустрэла яго і ўсё яму сказала аб гэтай справе. Аднак ён і слухаць не хацеў, сказаў толькі, каб я ішла да лекара, бо ён са мной не ажэніцца. Пры тэтым брыдка нават сказаў аба мне.

Дарагое Сэрцайка, парай, што рабіць, ці паехаць да лекара (і куды?), ці чакаць на В. За параду буду табе вельмі ўдзячна.

**Ганна з Гайнаўшчыны**

**Дарагая Ганна!** Шкада, што не пішаш, колькі табе год, калі ты так неразумна пступаеш у жыцці. Як можна даверыцца хлопцу, якога ты сустрэла першы раз? І як можна так не шанаваць сябе? Чаму ж ты не думала тады аб выніках усяго гэтага? Толькі аб такіх наіўных дзяўчатах пішацца ў прэсе, аб трагічных выніках гэтай наіўнасці, а яны наіўныя ўсё яшчэ сустракаюцца. Калі яшчэ не позна, перш за ўсё скажы аб гэтым сваім бацькам, бо да В. табе звяртацца самой ужо няма патрэбы. Хай бацькі вырашаюць, ці пайсці яшчэ раз да В., ці завесці цябе да лекара. Гэта вельмі сур'ёзная справа, таму рашыць аб гэтым могуць толькі бацькі з табой разам. Не думай, што пойдзеш да лекара, і ўсё будзе добра і гладка, як пішаш у сваім пісьме. Вынікі гэтага могуць быць нават трагічныя (можна назаўсёды страціць здольнасць радзіць, або захварэць цяжка і т.п.). Аб гэтым паінфармуе цябе дакладна лекар. Можаш пайсці да лекара-гінеколага ў сваёй павятовай парадні, або ў іншым горадзе.

**Сэрцайка**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Дубіны**

,,Na pomoc'' (angl.), ,,Katastrofa'' (polski), 14—15.

**Нараўка**

,,Bariera'' (polski), ,,W martwej pętli'' (radz.), 11—15.

**Нарва**

,,10 małych Indian'' (angl.), ,,Na frontach wojny domowej'' (radz.), 11—15.

**Чыжы**

,,Dywersanci'' (jugosł.), ,,Pociąg pod specjalnym nadzorem'' (czeski), 11—15.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Pamiętnik pani Harki'' (polski), ,,Potem nastąpi cisza'' (polski), 11—15.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Człowiek bez paszportu'' (radz.), ,,Gorące lato'' (jugosł.), 11—15.

**Райск**

,,Bumerang'' (polski), ,,Galia'' (franc.), 11—15.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Otello z prowincji'' (węgierski), ,,Panowie z kompleksami'' (włoski), 10—13.

**Міхалова**

,,Jedyna szansa'' (NRD), 10—11. ,,Przerwany lot'' (polski) 12—13. ,,Olbrzym'' (radz.), 14—15.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Hary i kamerdyner'' (duński), 10—11. ,,Intrygantki'' (czeski), 12—13. ,,Miałem 19 lat'' (NRD), 14—15.

**Шудзялава**

,,Czterej pancerni'' (polski), 11—15.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Banda'' (polski), ,,Testament gangstera'' (franc.), 11—15.

**Новы Двор**

,,Czterej pancerni i pies'' (polski), 11—15.

**Ліпск**

,,Czterej pancerni i pies'' (polski), 11—15.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 5727



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



— Мама мне сказала, каб я ў вас з'ела многа піроЖных, тады ўжо не трэба будзе мне ў хаце вячэраць.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Бэаты і Эвы Панасюк з вёскі Гозьна Беластоцкага павета змяшчаем песню п.з.

# TAKIE ŁADNE OCZY

Słowa: Marek Dagnan
Muzyka: Seweryn Krajewski




Ładne oczy masz, komu je dasz
takie ładne oczy, takie ładne oczy.
Wśród wysokich traw głęboki staw,
jak mnie nie pokochasz, to się w nim utopię.
W stawie zimna woda, troche bedzie szkoda,
troche bedzie szkoda, gdy utopie sie w nim.

Powiedz że mi jak odgadnać mam,
czy mnie bedziesz chciała,
czy mnie bedziesz chciała.
Przez zielony staw łabedzie dwa
grzecznie sobie płyna...
Czy mnie chcesz dziewczyno?
W stawie zimna woda, troche bedzie szkoda,
troche bedzie szkoda, gdy utopie sie w nim.

Inne oczy masz każdego dnia,
diabeł nie odgadnie, co w nich chowasz na dnie.
Przez zielony staw przeleciał wiatr,
po rozległej toni fala, fale goni.
W stawie zimna woda, troche bedzie szkoda.
Komu bedzie szkoda, gdy utopie sie w nim.
Ładne oczy masz, komu je dasz
takie ładne oczy, takie ładne oczy...




### ЯКАСНАЕ

Заказчык купляе насенне травы і пытаецца ў прадаўца:

— А насенне ў вас якаснае?

— Вядома! Калі трава не ўзыйдзе, можаце спакойна прынесці назад, я вярну грошы.

### СМЕЛА

Закаханы юнак прызнаецца дзяўчыне:

— Ужо цэлы тыдзень я хачу ў цябе нешта спытаць, ды ніяк не адважуся...

— Пытай смела, у мяне ўжо месяц назад гатовы адказ.

### ДВАЙНІК

Рымскі імператар Аўгуст, убачыўшы маладога чалавека, які быў вельмі падобны да яго вялікасці, запытаў:

— Твая маці ніколі не прыязджала ў Рым?

— Не! Але мой бацька наведваўся сюды часценька... — адказаў хлопец.

### ЖОНКА І МУЖ

Жонка і муж ідуць па вуліцы. Муж кажа:

— Давай пяройдзем на другі тратуар. Насустрач клыпае Кавальскі, а я вінен яму грошы. Не хацелася б сустракацца.

— У такім выпадку зойдзем у магазін, я хачу тоесёе купіць.

— Не, тады ўжо лепш сустрэць Кавальскага, — адказаў муж.

### ПРЫКМЕЦІЛА

На вуліцы сустрэліся дзве жанчыны:

— Ведаеш, — сказала першая, — каб не парасон, які я пакінула ў цябе два гады назад, то цябе зараз зусім бы не пазнала.

### СМЕЛЫЯ

— Калі я за цябе выходзіла, то думала, што ты смелы чалавек.

— Тое самае мне гаварылі тады ўсе знаёмыя.

### НЕ ПА АДРАСУ

Дырэктар Дома культуры звоніць па тэлефоне тэхніку радыёвузла:

— Мерапрыемства зрываецца. Гарым! Выручайце! Дайце аб'яву, каб людзі хутка сабраліся.

— Мілы мой! Вы пераблыталі нумар тэлефона. Звaніце ў пажарную.

Вынаходца.

### ТАБЕ ШТО

Пятро Тамашу:

— Калі я ўначы вяртаюся дадому, мая жонка не гаворыць ні слова, толькі пазірае на гадзіннік.

Тамаш Пятру:

— Табе што! Мая глядзіць на каляндар!

### ДВОЕ

Двое сядзяць на лавачцы. На ёй — модны світэр у абцяжку. Нарэшце яна пытае:

— А ты не мог бы хоць на хвіліну паглядзець мне ў вочы?

### БЛАСЛАЎЛЕННЕ

— Раней мая жонка іграла на піяніна з раніцы да вечара, а як пайшлі дзеці, дык ні разу не села за інструмент.

— Сапраўды, дзеці — бласлаўленне для сям'і.

# ДАЖЫНКІ

Старым звычаем мае суседзі хацелі зрабіць дажынкі. Хлопцы гэта адукаваныя. Калісьці адзін з іх вычытаў у кніжцы, што ў пачатку мінулага тысячагоддзя, дажаўшы жыта людзі абліваліся вадой. Яшчэ, праўда, асталася недакошаная вузкая палоска пад самым лесам іхняга жыта, але нашыя хлопцы вішнёвенькім маторчыкам паехалі ў Заблудаў. Хіба вам вядома, што цяпер мода: уперШыню заліваюцца, а пасля абліваюцца. Таму нашыя хлопцы цыхнулі два разы па сто, ну і вядома, бутылачку ў кішэнь прыхавалі. Нават каторысь з іх шапнуў другому, што на матор больш як 200 грамаў нельга піць. Мо ўсё і добра кончылася б, каб чорт войта не наднёс. Аб чым яны там гаварылі, то я не ведаю, але дагадваюся і думаю, што вы таксама дагадаецеся. Войт толькі ўсміхнуўся, нават трохі аблізаўся, сеў на трактар і паехаў за хлопцамі. Хлопцы нашыя, вядома, з добрым рассудкам, пастанавілі затрымацца ў лесе, бо хіба самі знаеце, што ў дома гэтая бутэлька магла б і на лобе лопнуць, бо жонкі ў іх досыць строгія. У лесе пачаліся сапраўдныя дажынкі. Выпілі мо бутэлек чатыры. Добра, што на іх шчасце быў трактарыст, які не піў, а толькі хлеб нюхаў і гарэлку даставаў. Асушыўшы тэтыя бутэлькі пачаліся такія штучкі, што нават Каін з Авелем седзячы на месяцы смяяліся. Суседнія вёскі ўсё выслухалі, бо хто мог бы заснуць пры такім спеве. Цётка Параска гаварыла: «як пачулі мы з Настуххаю спеў, то думалі, што гэта святы абраз нясуць. Запалілі свечкі, выйшлі на вуліцу і сталі на калені. Хто ж бы спадзяваўся, што гэта дажынкі ў лесе. Як учулі выразныя словы і ўбачылі, што на месяцы Каін са смеху Авеля з віламі ўпусціў, тады ўжо было ўсё ясна». Так, даражэнькія, нашы хлопцы справілі дажынкі. Як бачыце, вельмі весела, толькі жонкі з гарычу на душы чакалі цэлую ноч сваіх мужыкоў, а недажатая палоска жыта, якая асталася пад лесам, яшчэ чакае, калі злітуюцца добрыя гаспадары зрабіць перапёлачку.

Суседка Міхаліна

### УБАЧЫЦЕ

Дырэктар пытае наведвальніка, які просіць работы:

— А чаму вас звольнілі з папярэдняга месца?

— Прыміце мяне і ўбачыце.



— Натрапіў на добрае месца!

### ВАКОЛ СЛАВУТАСЦЕЙ

Рымскага консула Канінія Рабіла лічылі вельмі пільным. Цыцэрон пісаў пра яго: «На дзіва пільны консул — за ўсё сваё консульства не заплюшчыў вачэй!»

І гэта сапраўды так, бо Рабіла быў консулам усяго толькі... адзін дзень.

Пятро Гарэцкі

## КУМ ДА КУМЫ...

**Ой, кум да кумы заляцаўся,**
**Ўсё на свеце здабываць ёй абяцаўся:**
**— Будзеш, кумачка, купацца ў малацэ,**
**Будзеш тузін мець пярсцёнкаў на руцэ.**
**Закажу табе сукенкі з шоўку, з лёну,**
**І з сілону, і з нейлону,**
**З марыкену і з жаржэту.**
**Прытуліся ж да мяне шчыльней за гэта!**

**Кум хадзіў, кум насіў,**
**І з кумою разам піў**
**Каньячок і «Ркацатэлі»**
**І ўсялякія кактэйлі.**
**І лілися абяцанкі**
**Аб каханні ў час гулянкі:**
**— Я здабуду ўсё, што трэба.**
**О, мая ты зорка з неба!**
**Ды за ўсмешачку гарачую,**
**Усім, чым хочаш ты, адудзячу я! —**
**Так бажыўся ён і кляўся,**
**Ды з міліцыяй спаткаўся.**
**Ну, а потым і прызнаўся,**
**Дзе браў кофтачкі з сілону**
**І з жаржэту, і з нейлону.**
**І адкуль каньяк з ікрою**
**Краў на выпіўкі з кумою.**
**За крадзёж ды баляванне**
**Суд ім вынес пакаранне.**
**Вось цяпер павесяліся!**
**Тут іх сцежкі — разышліся.**
**Ой, кум да кумы заляцаўся,**
**Ды з кумой сваёю разам і папаўся.**

Пераклад з украінскага




### Вось у чым сакрэт!

Пры наведванні старадаўняй царквы паблізу Вероны (Італія) турыстаў звычайна здзіўляе выдатна захаваная мазаічная падлога. Служка царквы растлумачыў прычыны гэтага даўгалецця: «Веруючыя гэтай абшчыны вось ужо многа стагоддзяў не маюць абутку».

### Сабачыя чаравікі

Новазеландская паліцыя ўвяла спецыяльны абутак для службовых сабак — высокія шнураваныя чаравікі, якія засцерагаюць лапы ад асколкаў бітага шкла і іншых рэжучых прадметаў. Першая партыя сабачых чаравікаў зроблена вязнямі турмы горада Окленд.

### Новая мятла...



Да гэтага часу ў ірландскай абшчыне Дзінглоў дзейнічала пастанова, згодна якой у кінатэатры з прадстаўнікоў розных полаў побач маглі сядзець толькі муж і жонка. Новы бургамістр адмяніў гэтую пастанову. Ён уладальнік фабрыкі, якая вырабляе дзіцячыя каляскі.

### Не спадабалася

«Пасля майго пытання, дзе жонка Галя, цешча адказала: «Не твая справа». Такі адказ мне не спадабаўся, і мне захацелася зрабіць штосьці страшнае. Вось там я ўдарыў па тэлевізары, а цешчы прайшоўся па спіне».

(З тлумачальнай запіскі).




Удзельнікі вакальнага трыо пелі ў адзін голас — двух спевакоў наогул не было чуваць.




